*Разблытайма таямніцы!*

# Скарб думак

№ 6.

ПАНЯДЗЕЛАК
1
СНЕЖНЯ
2003 ГОДА

*Незалежнае рознабаковае выданне*

**Наша Ніва** [44] 28 лістапада 2003

## Як апляваць дэпутата

### Досьвед Белаазерску

23 лістапада ў Белаазерску адбыліся давыбары ў гарсавет. Дэмакратычныя кандыдаты прайгралі ў 10 з 12 акругаў. Улада дасягнула гэтага праз кампанію «чорнага піяру» супраць сваіх апанэнтаў. На гэта не пашкадавалі дзяржаўных грошай і сілаў. Як гэта рабілася?

У раёнцы «Маяк» напярэдадні выбараў дэмакратычных кандыдатаў называлі нашчадкамі Гёбэльса. У кожную паштовую скрынку закінулі ксэракопіі артыкулу з абласной газэты «Заря», дзе пра сёньняшняга намесьніка старшыні райсавету Юрася Губарэвіча гаварылася, што ён мае шыкоўны маёнтак, езьдзіць на іншамарцы і мае ўсе аксэсуары «новага беларуса».


**Юры Губарэвіч — асабісты вораг вертыкалі**

Ю.Губарэвіч зьбіраецца зьвярнуцца ў суд.

Акрамя газэт, было распаўсюджана пяць відаў розных улётак, падпісаных «група выбаршчыкаў» і без выходных зьвестак (што парушае выбарчы кодэкс), у якіх, у прыватнасьці, сьцьвярджалася, што дэмакратычныя дэпутаты хочуць адмяніць Дзень перамогі.

Застаецца толькі здагадвацца, што будзе на парлямэнцкіх выбарах, бяруцца за галаву назіральнікі ад Беларускага Хельсынскага камітэту.

З дробязяў: адну з выбарчых камісій узначальвала старшыня, прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасьці за парушэньні пасьля мясцовых выбараў у сакавіку.

Белаазерск перастаў быць адзіным горадам, дзе большасьць абраных дэпутатаў складалі прадстаўнікі апазыцыі. За той час, калі горад энэргетыкаў быў выспай дэмакратыі, мясцовы савет пасьпеў прыняць пастанову аб ільготным выдзяленьні жытла для маладых спэцыялістаў ў каапэратывах, упарадкаваць працу міліцыі і мэдустановаў.

На Дзень энэргетыка 22 сьнежня горад з нармалізаваным гарсаветам наведае А.Лукашэнка. Віншуем піяршчыкаў і легкаверных выбарцаў.

**ВДз**

**Наша Ніва** [44] 28 лістапада 2003

## Выгляд збоку




**Ліндэр Райнэр. Гісторыкі і ўлада. Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст.** — Менск, 2003

Гэткую кнігу беларускі гісторык здолеў бы напісаць толькі праз якіх гадоў пяцьдзясят. Каб даць такі адстаронены агляд, беларускую гістарычную навуку трэба бачыць з адлегласьці — прасторавай ці часавай. Ці здолеў бы хто зь сёньняшніх гісторыкаў адкрыта сказаць пра шкодную міталягічнасьць «100 пытаньняў і адказаў з гісторыі Беларусі» альбо скрытыкаваць прэтэнзіі беларусаў на Касьцюшкаву спадчыну? Ліндэру гэта даруюць: што возьмеш зь немца?..

Тэма дачыненьняў творцы й улады — вечная. Паддаецца ўладзе навуковец — гіне для навукі, не паддаецца — марнуе час на змаганьне замест творчасьці. Кніга Ліндэра — і пра першых, і пра другіх.

Цікава прасачыць эвалюцыю поглядаў нашых гісторыкаў на генэзу беларусаў: у 1920-я — «найчысьцейшы з славянскіх народаў», пры канцы стагодзьдзя — «славянізаваныя балты». Ліндэр акрэсьлівае гэтыя зьмены як паступовы, але няўхільны шлях беларускай гістарычнай навукі «на Захад».

## Дыягназ сыстэмы адукацыі Беларусі

Максім Жбанкоў, Аляксандар Палоньнікаў

Беларусь: сцэнары рэформаў

Эўрапейскі выбар для Беларусі

*СТАРОНКІ КНІГІ* *Глядзіце старонкі 3-4.*

*Народная Воля* 27 ЛІСТАПАДА 2003 г.

# Параза

### Чаму ў акцыі, абвешчанай незарэгістраванай арганізацыяй «Малады фронт», прыняло ўдзел так мала людзей

Незарэгістраваная арганізацыя "Малады фронт" правяла акцыю "Мы супраць будучага рэферэндуму". На сталічнай плошчы Якуба Коласа сабралася некалькі дзесяткаў чалавек. На выхадзе з плошчы на праспект Скарыны шэсце спынілі супрацоўнікі АМАПа. 17 актывістаў былі затрыманы.

Атрымаўшы такую інфармацыю агенцтва БелаПАН, мы пачалі рыхтаваць яе да друку. Але задумаліся: а што ж, уласна кажучы, адбылося? Ды нічога значнага. Ну, выйшла на плошчу групка маладых людзей... Ну і што? Такое паведамленне можа зацікавіць хіба што саміх удзельнікаў акцыі.

Мы не сталі друкаваць гэту дробную інфармацыю. А вось паразважаць, відаць, варта. Бо ў ёй, нібы ў кроплі вады, адлюстравана слабасць і нашай апазіцыі, і нашай улады.

Тэма ж акцыі надзвычай важная. У грамадстве спее незадаволенасць намерамі ўлады правесці рэферэндум па змене Канстытуцыі, што можа дазволіць Лукашэнку балатавацца на чарговы тэрмін прэзідэнцтва. Агульнавядома, што ў цывілізаваных краінах больш як два тэрміны найвышэйшую пасаду нікому не дазволена займаць. А ў нас жа збіраюцца працягваць паўнамоцтвы Аляксандра Рыгоравіча аж да 17 гадоў. І гэта ў той час, калі нацыя літаральна вымірае. Было больш за дзесяць мільёнаў чалавек, цяпер — значна менш. Для вялікай часткі насельніцтва жыццё пагаршаецца з кожным днём. Співаецца не толькі вёска, дэградуюць райцэнтры, буйныя гарады.


*Нічога не даб'ешся, калі на аднаго пратэстуючага — два міліцыянты.*

**Фота ByMedia.net**

Сапраўды, як тут не біць у званы! Пра які трэці тэрмін прэзідэнцтва А.Лукашэнкі можна весці гаворку! Усім зразумела — сённяшняя ўлада даўным-даўно абанкруцілася.

Здавалася б, уся краіна павінна была падтрымаць ініцыятыву "Маладога фронту". Тым больш што гарадскія ўлады далі дабро на акцыю, змяніўшы толькі месца яе правядзення: шэсце — па вуліцы Кульман, мітынг — на плошчы Бангалор.

Дык чаму ж такой малаколькаснай аказалася акцыя "Мы супраць будучага рэферэндуму"? Відаць, таму, што кожны — толькі за сябе. Кожны "генсек" невялічкай групкі надзімае шчокі і лічыць сябе ледзь не лідэрам нацыі. Але пры гэтым не ў стане асэнсаваць і зразумець простую ісціну: кожны з іх сам па сабе — нішто, ці, як пісаў вядомы савецкі паэт, "единица — ноль, единица — вздор". Сіла любой апазіцыі — у адзінстве. У нас ужо прыкладна дзесяць гадоў вядуцца размовы аб адзінстве дзеянняў, а іх як не было, так і няма. Балбатня замяняе справы.

Вось яна, асноўная слабасць беларускай апазіцыі — у адсутнасці лідэраў, якія б разумелі простыя ісціны. У Грузіі яны знайшліся і выступілі адзіным фронтам. А да гэтага добры ўрок быў дадзены ў былой ГДР, у Польшчы, Чэхіі, Балгарыі, Югаславіі, Румыніі... Відаць, ён да нас яшчэ не дайшоў.

Цяжка зразумець і ўлады, якія паслалі АМАП, каб ён размахваў дубінкамі. Няўжо некалькі дзесяткаў юнакоў і дзяўчат, якія сабраліся на мітынг, няхай сабе і ў недазволеным месцы, уяўлялі нейкую небяспеку для грамадскага ладу? Чаго спужаліся? А спужаліся, відаць, не на жарт, калі паслалі АМАП. Што ж гэта за ўлада, якая так моцна баіцца ўсяго, нават невялічкай групкі моладзі? Напэўна, мае рацыю актывіст Павел Севярынец, які ў каментарыі БелаПАН заявіў, што ўлада "баіцца ўсялякіх, нават нязначных праяў супраціўлення".

Канешне, затрыманнямі ўлада імкнецца запужаць моладзь, дабіцца таго, каб юнакі і дзяўчаты не выходзілі на падобныя акцыі. І ёй гэта ўдаецца. Так што партыі і рухі, якія праігнаравалі выступленне моладзі, найперш нашкодзілі сабе, бо на іхнія акцыі таксама прыйдзе няшмат людзей. Многія падумаюць: няма сэнсу падстаўляцца пад дубінкі, пачакаем, калі на вуліцы выйдзе ўвесь народ...

Разважаючы аб паразах апазіцыі, прышодзіш да высновы — перамог не будзе да таго часу, пакуль лідэры так званай апазіцыі не зразумеюць, што такімі непадрыхтаванымі акцыямі, калі на мерапрыемства выходзіць толькі 30—40 чалавек (няхай сабе і тысяча), яны льюць ваду на мельніцу рэжыму. Вечарам штатныя прапагандысты вылазяць на экраны тэлевізараў і з'едліва даносяць да шырокіх мас, маўляў, глядзіце, зноў кучка "отморозков" выйшла на плошчу. Людзей прывучаюць да думкі, што не трэба ўдзельнічаць у нейкай там акцыі, якую "не падтрымлівае народ".

У той жа час ва ўсім свеце лічыцца, што мітынгі, шэсці — гэта актыўнейшыя формы пратэсту. Але мэта дасягаецца тады, калі ўдзел у іх прымаюць не дзесяткі чалавек, а тысячы, дзесяткі і сотні тысяч. Для гэтага трэба добра рыхтавацца, аб'ядноўваць сілы. І тут ёсць над чым задумацца лідэрам беларускіх партый, грамадскіх рухаў.

Што і казаць, нашы ўлады сваімі дзеяннямі (як эканамічнымі, так і палітычнымі) пашыраюць кола незадаволеных. Але тыя, хто прэтэндуе на лідэрства ў апазіцыі, не ўмеюць скарыстаць сітуацыю. Горкім урокам можа быць акцыя, абвешчаная "Маладым фронтам".

**Сяргей ІВАНОЎ.**

# Алег Латышонак: За стомільённую канфэдэрацыю і касьмічны флёт

**Гісторык зь Беластоку Алег Латышонак не падзяляе радасьці палякаў з прычыны далучэньня да Эўразьвязу. Дый Беларусь, на яго думку, «у Эўропу» імкнуцца ня мусіць. Гэты вэтэран палітычнае барацьбы (пачынаў разам з «Салідарнасьцю») і адзін зь лідэраў беларусаў у Польшчы марыць пра аднаўленьне магутнай Рэчы Паспалітай. Карэспандэнт «НН» гутарыць з А.Латышонкам у рэдакцыі газэты.**


АНДРЭЙ ЛЯНКЕВІЧ

Усе мае аднагодкі больш радыкальныя, чым нашыя студэнты. Цяперашняе маладое пакаленьне, у сваёй большасьці, — прыстасаванцы.

**Алег Латышонак:** Я быў супраць таго, каб Польшча ўступала ў Эўразьвяз. Таму не магу сказаць, што мне падабаецца ідэя ўваходу ў Эўразьвяз Беларусі. Я лічу, што ў Цэнтральнай Эўропе трэба адбудоўваць Рэч Паспалітую. Вядома, на новых умовах, але такую, якой яна была калісьці: Польшча, Украіна, Беларусь. Такая канфэдэрацыя мела б сто мільёнаў насельніцтва, вялізную армію, нават касьмічны флёт...

**«НН»: І шмат у Вас аднадумцаў?**

**А.Л.:** Не, у Польшчы іх зусім няма. Частка людзей — за аб'яднаньне з Эўразьвязам, частка баіцца немцаў і ня вельмі імкнецца ў Эўразьвяз, іншыя спадзяюцца на амэрыканцаў, але ніхто не спадзяецца на сябе. І гэта страшна.

**«НН»: У беларускіх умовах раней дадавалася яшчэ спадзяваньне на Расею, што зыходзіла ад улады.**

**А.Л.:** Я не заўважаю ніякай зьмены, ніякага накіраваньня на незалежнасьць Беларусі. Для мяне ўсё як было, так і застаецца. Я ніколі ня быў вялікім крытыкам Аляксандра Лукашэнкі, дый наагул мне здаецца, што якраз ня ў ім праблема.

**«НН»: А ў кім? Няўжо і вы будзеце наракаць на лідэраў апазыцыі?**

**А.Л.:** Я іх усіх ведаю. Гэта добрыя людзі і добрыя палітыкі. Не хацеў бы гаварыць пра тое, чаго ім не хапае. Проста няма цяпер такога лідэра, які патрэбны. Але, мне здаецца, у сытуацыі, калі вялікая частка грамадзтва застаецца абыякавай да таго, што адбываецца, ні геній, ні звышчалавек ня зможа памяняць сытуацыю. Таму я лідэраў апазыцыі ні ў чым не лічу вінаватымі.

**«НН»: Вы неяк казалі, што ў палітыцы ня трэба гаварыць, трэба дзейнічаць...**

**А.Л.:** Я прыхільнік сьцьверджаньня ці парады, якую даў усім нам Алесь Чобат. На гэты момант перад беларусамі стаіць не пытаньне «Што рабіць?», а пытаньне «Чаго не рабіць?». На мой погляд, гэта сьвятыя словы, якія ўсе людзі, што займаюцца палітыкай у Беларусі, павінны ўзяць пад увагу.

**«НН»: І чаго ж нельга рабіць?**

**А.Л.:** Нельга здаваць свае пазыцыі! Ня трэба шукаць выхад з тупіковай сытуацыі ўсялякім коштам. У сытуацыі, калі немагчыма зрабіць тое, што трэба, лепш нічога не рабіць.

**«НН»: Дык што, сядзець склаўшы рукі?**

**А.Л.:** Найперш ня варта займацца выбарамі, пра якія загадзя гаворыцца, што яны несапраўдныя. Я проста не разумею такой сытуацыі, калі хтосьці ўваходзіць у не сваю гульню на чужых правілах і хоча чагосьці дабіцца...

**«НН»: І чым Вы радзіце займацца апазыцыйным палітыкам, калі кажаце, што ім нічога ня сьвеціць?..**

**А.Л.:** Кожны мусіць сам выбіраць. Я маю такую прафэсію, што, так ці інакш, працую на карысьць Беларусі. Палітычная сытуацыя цяпер якраз такая, што, можа, лепш займацца гэтымі справамі?.. Сытуацыя ў краіне такая тупіковая, што толькі нейкі вонкавы фактар можа на яе паўплываць. На жаль, на сёньняшні дзень я ня бачу, каб хто з палітыкаў ці палітолягаў сказаў, як яе зьмяніць зь сярэдзіны.

**«НН»: Гэта значыць, што палітычныя кааліцыі, якія цяпер ствараюцца, Вы не ўспрымаеце ўсур'ёз?**

**А.Л.:** Я, прызнаюся шчыра, ужо гэтым не цікаўлюся. Не хачу нікога пакрыўдзіць... Я магу гаварыць толькі пра свае прыватныя адчуваньні. І вось я бачу, што ў дадзены момант адбываецца гульня па чужых правілах.

**«НН»: Ці дапускаеце Вы, што гэткая сытуацыя можа нарадзіць пратэст, у палітыку прыйдзе моладзь і апазыцыя радыкалізуецца?**

**А.Л.:** Я — выкладчык і ведаю сотні студэнтаў. Усе гэтыя маладыя людзі намнога менш радыкальныя, чым маё пакаленьне. Мы ўжо пастарэлі, усе мае аднагодкі ў сярэдніх гадах, але мы больш радыкальныя, чым нашыя студэнты. Цяперашняе маладое пакаленьне, у сваёй большасьці, — прыстасаванцы. Я гавару ня толькі пра беларусаў, але і пра маладых палякаў. Прыстасаванцы, якія стараюцца знайсьці сабе месца на будучыню. Яны маюць надзею, што кожны зь іх абхітрыць сваіх сяброў, аднагодкаў, грамадзтва і неяк уладкуецца. Але яны прайграюць, бо немагчыма так, каб усіх абдурыць. Можа, удасца аднаму-другому... Гэтае пакаленьне прайгранае ўжо на старце.

**«НН»: У 90-я можна было пачуць, што «Чачэнія змагаецца і за беларускую незалежнасьць». А ці здольныя, на Ваш погляд, беларусы змагацца за незалежнасьць нейкага іншага народу, ці змогуць яны абараніць незалежнасьць сваю?**

**А.Л.:** Я лічу, што здольныя. Як гісторык вайсковай справы, магу сказаць, што быў такі момант, напрыклад, 1920 г., калі беларуская дзяржава зьнікла толькі таму, што беларусы прайгралі вайну з бальшавіцкай Расеяй. А гэта ня сорам, бо Расея — вялікая краіна, ёй можна прайграць вайну. Але гэты прыклад паказвае, што беларусы ўмеюць змагацца за сваю дзяржаву. А сёньняшняя сытуацыя няясная. Цяпер няма адкрытага прыгнёту Беларусі якой-небудзь краінай. Маем справу «хатнюю», унутраную.

**«НН»: А Вы ня думаеце вярнуцца ў палітыку?**

**А.Л.:** Безумоўна, калі будуць выбары на Беласточчыне, я ў іх уключуся, бо лічу гэта сваім грамадзкім абавязкам, хоць у нас будуць кандыдаты больш за мяне важкія. У гэтым пытаньні я зыходжу з пазыцыі арганізацыі. Выбары ў нас свабодныя, і ня ўзяць у іх удзелу — гэта здаваць адразу ўсе пазыцыі.

**«НН»: А ці доўга, на Вашу думку, Беларусі чакаць свабодных выбараў?**

**А.Л.:** Разважаючы пра беларускую сытуацыю, можна згадаць, як калісьці было ў Польшчы. Я памятаю, калі пад канец 70-х мы, студэнты, гаварылі, што ўжо такая стагнацыя ў краіне, такі маразм, што гэтага народу нішто ня зрушыць. Але выявілася, што народ усё ж выступіў і ўзьнікла «Салідарнасьць». А гэта было літаральна праз месяц пасьля маёй размовы зь сябрам, калі мы наракалі, што ніхто за намі ня пойдзе. А здарылася так, што мы мусілі даганяць пасьля... Я памятаю сытуацыю ў Беларусі ў 1990—91 г. Тады таксама здавалася, што нічога ня будзе. Прыгадваю размовы зь беларускімі дзеячамі, памятаю Сойм БНФ, на якім гаварылася, што «народ сьпіць і ніхто яго не падыме». А праз тыдзень пачаліся першыя страйкі і вулічныя дэманстрацыі. Таму я, як гісторык і чалавек з дваццацігадовым досьведам у палітыцы, магу сказаць: калі нам сытуацыя ў краіне падаецца тупіковай, гэта ня значыць, што так будзе праз месяц. Самыя вялікія падзеі, якія адбываліся на маіх вачах, адбываліся нечакана. Гэта мне дазваляе ўсё ж такі быць аптымістам і не складаць рук. Трэба працаваць і спадзявацца на лепшае.

**Гутарыў Сяргей Ёрш**

## ДАВЕДКА «НН»

**Алегу Латышонку** 46 гадоў. Ён — самы высокі беларускі палітык (203 см).

Дзяяч польскай «Салідарнасьці», у 1982 г. праседзеў восем месяцаў у турме за падпольную дзейнасьць. Былы лідэр Беларускага дэмакратычнага аб'яднаньня — адзінай партыі беларускай меншасьці ў Польшчы. Цяпер старшыня Беларускага гістарычнага таварыства, працуе на катэдры беларускай культуры ў Беластоцкім унівэрсытэце. Аўтар кнігі «Białoruskie formacje wojskowe 1917—1923» (Беласток, 1995) і суаўтар «Гісторыі Беларусі ад паловы XVIII да канца XX ст.» (разам зь Яўгенам Мірановічам, Беласток, 2002). Ягоны ўлюблёны герой зь беларускай гісторыі — легендарны Ўсяслаў Чарадзей.

## Выгляд збоку




**Распавед пра зьмены ў беларускай гістарычнай навуцы чытаецца як бэлетрыстыка з добра закручаным сюжэтам. Публіцыстычнасьць асабліва моцна адчуваецца ў апошняй частцы, прысьвечанай прэзыдэнцкаму пэрыяду ў Беларусі. І разам з гэтай лёгкасьцю аповеду — дзьве надзвычай важныя высновы: «Па-першае: адзінае савецкае бачаньне гісторыі сьцьвердзіла сябе ў Беларусі толькі пасьля атрыманьня ваеннага досьведу і канчатковага ўсталяваньня савецкага патрыятызму як інтэрпрэтацыйнай дактрыны сучаснай гісторыі. Па-другое: да другой паловы 40-х актыўнымі заставаліся гэткія гісторыкі, як Пічэта, што атрымлівалі адукацыю ва ўнівэрсытэтах царскай імпэрыі й доўгі час лічыліся «буржуазнымі нацыяналістамі». Яшчэ адна тэза, якая вынікае з кнігі Лінднэра: у Беларусі палітызацыя гісторыі (альбо гістарызацыя палітыкі) дагэтуль застаецца актуальным фактарам. Прычым гэта датычыць гісторыі ня толькі апошняга стагодзьдзя, але й папярэдніх. Зрэшты, «адстароненасьць» сыграла зь Ліндэнрам і непамысны жарт. Кнігу Зьмітрака Бядулі «Жыды на Беларусі» ён палічыў антысэміцкай.**

**За працу Р.Ліндэнра, якая выкліча не адну спрэчку, варта падзякаваць навуковаму рэдактару Генадзю Сагановічу, які ініцыяваў беларускае выданьне, і перакладчыку Лявону Баршчэўскаму — за рупнасьць падчас перакладу.**

**Адам Воршыч**

# № 6.

ПАНЯДЗЕЛАК

# 1

СНЕЖНЯ

2003 ГОДА

**Сёння :**

СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ

ПРАФІЛАКТЫКІ

СНІД

**МОЛАДЗІ ПРА СНІД**

СНІД — сіндром набытага імунадэфіцыту чалавека — з'яўляецца канчатковай стадыяй ВІЧ-інфекцыі. ВІЧ-інфекцыя — інфекцыйнае захворванне, якое выклікаецца вірусам імунадэфіцыту чалавека (ВІЧ), што разбурае важныя клеткі імуннай сістэмы.

Моладзь лічыць: СНІД нас не закране.

Спецыялісты сцвярджаюць: каля 90 % ВІЧ-інфіцыраваных — маладыя людзі ва ўзросце ад 15 да 30 гадоў.

СНІД — хвароба не толькі гомасексуалістаў, наркаманаў, прастытутак. Так, гэтыя людзі ў найбольшай ступені рызыкуюць заразіцца ВІЧ-інфекцыяй. Моладзь, якая не адносіць сябе да гэтых груп, эксперыментуе з наркотыкамі, сексам, г. зн. таксама рызыкуе заразіцца ВІЧ-інфекцыяй.

Усё ў жыцці трэба паспрабаваць... наркотыкі таксама... хаця б адзін раз. Гэта няправільны жыццёвы прынцып. Эксперымент з наркотыкамі вельмі небяспечны! Прыміце да ўвагі трагічны вопыт іншых: 81 % усіх ВІЧ-інфіцыраваных на Беларусі — ін'екцыйныя наркаманы, з іх 30 % — маладыя людзі, якія ўводзілі наркотыкі некалькі разоў.

Кантрацэптывы — сродкі аховы ад ВІЧ-інфекцыі. З усіх сродкаў кантрацэпцыі толькі прэзерватыў зніжае рызыку заражэння ВІЧ-інфекцыяй.

На сённяшні дзень няма эфектыўных сродкаў лячэння ВІЧ-інфекцыі. Хвароба прыводзіць да смяротнага канца.

**Наша Ніва [44] 28 лістапада 2003**



АЛЕНА АНДРЭЕВА

ДЗЕ ВАРТА БЫЦЬ

## Канцэрт Шалкевіча

**5 сьнежня ў менскім Палацы культуры вэтэранаў (вул Янкі Купалы, 21) адбудзецца вялікі канцэрт гарадзенскага барда і актора Віктара Шалкевіча.** Музыка будзе прэзэнтаваць новы альбом «За сто крокаў ад Вострае Брамы, альбо геаграфія ВКЛ і ваколіцаў». Пачатак у 19:00. Цана квітка ад 5000 да 7000. Даведкі і замова квіткоў: 649-08-88, 766-24-25.

***Разблытайма таямніцы!***

На стан сыстэмы беларускай адукацыі ў папярэдняе дзесяцігодзьдзе паўплывалі некаторыя спробы яе мадэрнізацыі, якія былі зьвязаныя з наступнымі мэтамі адукацыйных трансфармацыяў:

– *«дэідэалягізацыяй»*, якая ставіла заданьне эмансыпацыі зьместу адукацыі ад вартасьцяў і ўстановак камуністычнай ідэалёгіі. Найперш заданьні дэідэалягізацыі рэалізоўваліся ў зьмесьце гуманітарнай адукацыі, аднак рэальная практыка выявілася значна шырэйшай і закранула як сфэру выхаваньня (узоры і вартасьці), так і базавыя ўстаноўкі беларускай адукацыі наагул. Нельга не прызнаць некаторых посьпехаў рэфарматараў у дадзеным кірунку ў пачатку – сярэдзіне 1990-х гг. Сёньня, аднак, аўтарытарная ідэалёгія вяртаецца ў сыстэму адукацыі;

– *«дэпалітызацыяй»*, г. зн. выцясьненьне з школы палітычных інстытутаў КПСС і яе атожылкаў – моладзевых і дзіцячых арганізацыяў. Мэты дэпалітызацыі не былі канчаткова дасягнутыя (некаторыя дзіцячыя і моладзевыя камуністычныя аб'яднаньні, напрыклад, піянэрыя і БРСМ, ня толькі яшчэ існуюць у навучальных установах, але і пры падтрымцы дзяржавы імкнуцца пашырыць свой уплыў);

– *«беларусізацыяй»*, якая мела мэтай пераход выкладаньня ў навучальных установах на беларускую мову. Меркавалася, што для вырашэньня гэтай задачы будзе дастаткова 10 гадоў. Дзеля гэтага ствараліся беларускамоўныя падручнікі для ўсіх узроўняў адукацыі, уводзілася справаводзтва на беларускай мове, праводзілася атэстацыя і перападрыхтоўка пэдагагічных кадраў, скіраваная на павышэньне кампэтэнтнасьці выкладчыкаў у сфэры беларускай мовы і культуры. Вынікі гэтых намаганьняў сёньня адсутнічаюць. Пры беспасярэднім удзеле органаў кіраваньня адукацыяй «беларусізацыя» аказалася цалкам згорнутай;

– *«дывэрсіфікацыяй»*, або структурнай перабудовай беларускай адукацыі. У выніку яе зьявіліся навучальныя ўстановы рознага тыпу: школы, гімназіі, ліцэі, каледжы, навучальныя комплексы (прафтэхвучэльня – тэхнікум – ВНУ), многія ВНУ (інстытуты) былі ператвораны ўва ўнівэрсытэты і акадэміі, а зьмест навучаньня стратыфікаваны ўзроўнева і спэцыялізавана. У сярэдніх школах пачалі ў вялікай колькасьці ўзьнікаць спэцыялізацыі і «профільныя» клясы «эканамістаў», «юрыстаў», «музыкаў» і г. д. Адным з найважнейшых вынікаў гэтай структурнай перабудовы стала зьяўленьне недзяржаўнай і камэрцыйнай адукацыі, рынку адукацыйных паслугаў. Структурная перабудова закранула навучальныя ўстановы ўсіх тыпаў і ўзроўняў, сфэру дадатковай і пазашкольнай адукацыі;

– *«інфарматызацыяй»*, што была арыентавана на набыцьцё кампутарнай пісьменнасьці ўсімі суб'ектамі адукацыі, забесьпячэньне сучаснымі інфармацыйнымі сыстэмамі ўсіх падструктураў адукацыі, пераход зьместу навучаньня на электронныя носьбіты, падключэньне беларускай адукацыі да сусьветных інфармацыйных рэсурсаў. Хаця ў дадзеным кірунку за мінулае дзесяцігодзьдзе зроблена шмат, вынікі, асабліва ў правінцыі, аднак, вельмі нязначныя.

Таму стан беларускай адукацыйнай сыстэмы ў цэлым можна вызначыць як стан рэфармацыйнай стагнацыі, а адукацыйную сыстэму як сутнасна нерэфармаваную. Дэкарацыйныя адміністрацыйныя навацыі апошніх гадоў аніяк не закранулі зьместу адукацыйнага працэсу.

Беларуская адукацыйная сыстэма ўсё меней адпавядае шэрагу сутнасных функцыяў, якія яна павінна выконваць.

Найперш адукацыя павінна судзеяць увесьчаснаму адтварэньню інфармацыйнага рэсурсу як спэцыяльна-прафэсійнальнай, так і грамадзка-палітычнай дзейнасьці асобаў і сацыяльных групаў.

Па-другое, адукацыя мае на ўвазе адтварэньне чалавечага рэсурсу функцыянаваньня грамадзтва. Іншымі словамі, ідзецца пра своеасаблівую «прапіску» індывіда ў канкрэтным сацыяльным асяродзьдзі, навучаньне яго розным тэхналёгіям сацыяльнага (у тым ліку прафэсійнага) дзеяньня.

Па-трэцяе, сыстэма адукацыі – гэта натуральная крыніца фармаваньня новых нацыянальных элітаў, якія неўзабаве будуць вызначаць прыярытэты і кірункі разьвіцьця нацыі.

Па-чацьвёртае, навучальныя ўстановы вышэйшага ўзроўню (вышэйшая школа) традыцыйна былі сфэрай дзейнасьці навуковых супольнасьцяў, занятых ня толькі выкладчыцкай, але і дасьледчыцкай актыўнасьцю.

Нарэшце, функцыянаваньне сыстэмы адукацыі як сацыяльнага інстытуту вымагае наяўнасьці эфэктыўных мэханізмаў кіраваньня і самакіраваньня, здольных забясьпечыць устойлівае разьвіцьцё сыстэмы ўва ўмовах дынамічнага разьвіцьця рэальнасьці постсавецкага тыпу.

Цяперашняя сыстэма адукацыі эфэктыўна выконваць гэтыя функцыі прынцыпова няздатная. Каб пацьвердзіць гэтую тэзу, падрабязьней разьбярэм кожны з пазначаных пунктаў.

### Адтварэньне інфармацыйнага рэсурсу

Гэтая праблема мае тры аспэкты: уласна інфармацыйны (зьмест навучаньня), інфармацыйна-мэтадычны (тэхналёгіі адукацыі) і тэхналягічны (інфармацыйная культура).

Зьмест адукацыі практычна на ўсіх узроўнях характарызуецца, з аднаго боку, перагружанасьцю навучальных праграмаў празьмернай, шмат у чым перасталай інфармацыяй, а з другога боку – прынцыповай адсутнасьцю сапраўды актуальнай інфармацыі, якая да таго ж была б яшчэ і добра пададзеная. Такая сытуацыя ў пэўным сэнсе абсалютна «натуральная» для адукацыйнай сыстэмы, бо ўсё беларускае грамадзтва «завісла» на першай стадыі свайго постсаляніяльнага існаваньня.

Хоць на пачатку 1990-х гг. і ажыцьцяўлялася своеасаблівая «дэканструкцыя» масіву навучальнага матэрыялу папярэдняй эпохі і хоць той час і спарадзіў актыўную хвалю выданьняў навучальных дапаможнікаў беларускіх аўтараў (перадусім у гуманітарных дысцыплінах), парадокс быў у тым, што падручнікі новага пакаленьня ствараліся людзьмі старой школы, практычна незнаёмымі з найноўшымі гуманітарнымі дасьледаваньнямі. Такія аўтары насамрэч адтваралі ў сваіх тэкстах структуры мысьленьня квазімарксісцкага ўзору.

Інэртнасьць мысьленьня, адсутнасьць рэальных стымулаў прафэсійнага росту, закрытая клянава-карпарацыйная тактыка разьмеркаваньня выгадных замоваў на напісаньне падручнікаў, адсутнасьць іх адэкватнай навуковай экспэртызы выклікалі існую сёньня сытуацыю: у сфэры інфармацыйнага забесьпячэньня навуковай дзейнасьці пераважае «інфармацыйны шум».

Фармальна рынак навучальнай літаратуры насычаны, аднак рэальна сапраўды беларускіх падручнікаў новага пакаленьня для цэлага шэрагу дысцыплінаў (ад агульнага курсу філязофіі да сацыяльнай антрапалёгіі і культуралёгіі) няма. А шэраг сапраўды наватарскіх падручнікаў (найперш у гісторыі Беларусі) ня быў выдадзены дзеля актыўнага супрацьдзеяньня рэакцыйна настроеных экспэртаў.

Недэмакратычная і непразрыстая працэдура падрыхтоўкі падручнікаў, якая па-ранейшаму захоўваецца ў краіне, выключае адкрытую канкурэнцыю аўтарскіх калектываў і канцэпцыяў. Пры гэтым адсутнічаюць дыдактычныя парады для напісаньня падручнікаў. Інфармацыйнае асяродзьдзе мазаічнае, але не варыянтнае: у кожнай навучальнай установе, як правіла, навучаюць з «сваіх» дапаможнікаў. Гэта азначае, што ў краіне ня толькі адсутнічае неабходны звод базавых навучальных дапаможнікаў новага пакаленьня, адпаведных сучасным эўрапейскім стандартам, але і ўвогуле бракуе такіх дапаможнікаў.

«Шумавое» інфармацыйнае асяродзьдзе тутэйшай вытворчасьці стварае перадумовы для *расейскай інфармацыйнай экспансіі.* Расейскія падручнікі, нярэдка ня менш правінцыйныя зьместава, але з актуальным навуковым лексыконам і паўнейшым колам крыніцаў, актыўна заваёўваюць цэнтральнае месца на беларускім рынку інфармацыйна-адукацыйных рэсурсаў. У выніку беларускія навучэнцы атрымліваюць «два ў адным»: інфармацыйны пакет расейскай вытворчасьці ў камплекце з наборам сьветапоглядных установак былога Вялікага Брата.

Адукацыйныя тэхналёгіі гэтак жа дзіўна спалучаюць у сабе выразна акрэсьленую апошнім часам Міністэрствам адукацыі тэндэнцыю максымальнай стандартызацыі навучальных курсаў (міністэрствам уведзена адказнасьць за «няправільнае» паданьне матэрыялаў курсу) і хаатычнага экспэрымэнтаваньня, якое адбываецца ў прыватных навучальных установах усіх узроўняў. Фактычна існуе нібыта *плюралізм адукацыйных тэхналёгіяў:* у дзяржаўных установах практыкуецца традыцыйная мадэлі выкладаньня, а ў недзяржаўнай школе адбываецца стыхійная актыўнасьць энтузіястаў, якія спрабуюць засвоіць заходнія навучальныя тэхналёгіі.

Усе названыя падыходы найчасьцей малаадэкватныя рэальнай беларускай сытуацыі: літаральны пераход як з «савецкага», так і з «заходняга» тут абсалютна нядзейсны, а мэханізм канструктыўнай адаптацыі пакуль не выпрацаваны. Такія «мазаічныя», ці «лапікавыя», навучальныя тэхналёгіі, якія канфліктуюць адна з адной ня толькі ў сьвядомасьці выкладчыка, але ў практыцы навучальных установаў, аб'ектыўна замінаюць эфэктыўнай камунікацыі ў працэсе навучаньня і істотна зьніжаюць ягоную якасьць. Выкладчык і навучэнцы ў найлепшым выпадку маюць няўцямнае ўяўленьне пра спосаб трансьляцыі і засваеньня матэрыялу. У найгоршым – проста гавораць на розных мовах, існуючы ў паралельных камунікацыйных прасторах.

Засваеньню найноўшых адукацыйных тэхналёгіяў замінае і існая практычна ў нязьменнай з савецкіх часоў форме сыстэма павышэньня кваліфікацыі. Ажыцьцяўляецца адкрытая дыскрымінацыя работнікаў недзяржаўнага сэктару адукацыі: для іх павышэньне кваліфікацыі ў дзяржаўных установах платнае. Нізкі ўзровень аплаты працы работнікаў інстытутаў павышэньня кваліфікацыі выклікае актыўны перацёк кадраў з сфэры «навучаньня навучаючых».

Інфармацыйная культура выкладчыцкага складу і навучэнцаў не адпавядае патрабаваньням сёньняшняга дня. Найперш гэта абумоўлена:

– слабым веданьнем замежных моваў (ды і роднай беларускай);
– масавай кампутарнай непісьменнасьцю;
– малой даступнасьцю сеткавых інфармацыйных рэсурсаў за межамі буйных гарадоў;
– нізкім тэхнічным (кампутарным) забесьпячэньнем абсалютнай большыні навучальных установаў.

Малаэфэктыўная сыстэма павышэньня кваліфікацыі настаўнікаў і выкладчыкаў вышэйшых і сярэдніх спэцыяльных навучальных установаў ня ў стане пераадолець разрыву паміж сучаснымі патрабаваньнямі да якасьці выкладаньня і ўзроўнем інфармацыйнай культуры выкладчыкаў і навучэнцаў, асабліва ў сфэры гуманітарных ведаў.

Ранейшае дзяржаўнай «разнарадкі» на абавязковую перападрыхтоўку выкладчыкаў навучальных установаў болей не існуе. Іншых стымулаў сучасная сыстэма беларускай адукацыі не прапануе, а таму кіраўніцтва навучальных установаў не зацікаўленае ў павышэньні якасьці выкладаньня і зь вялікім супрацівам адпраўляе супрацоўнікаў на перападрыхтоўку.

Тэматыка курсаў павышэньня кваліфікацыі фактычна не абнаўляецца, часьцяком носіць кан'юнктурны характар. Але нават калі сапраўды наватарская праграма інфармацыйнай перападрыхтоўкі ці дадатковай адукацыі рэалізуецца, яна непазьбежна прыходзіць у супярэчнасьць з рэальнымі ўмовамі работы правінцыйнага выкладчыка. Той ня мае ў дастатковай колькасьці ані адпаведных навучальных матэрыялаў, ані неабходнага кампутарнага абсталяваньня. →

